*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 76 (4328)

25 верасня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



АФІЦЫЙНА

## Лукашэнку запрасілі на Форум міру ў Парыж

*11–13 лістапада, на 100-ю гадавіну заканчэння Першай сусветнай вайны, у Парыжы пройдзе Форум міру. Паведамляецца, што ў французскай сталіцы маюць сабрацца больш за 80 кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў.*

Запрашэнне ад імя прэзідэнта Эманюэля Макрона атрымаў і Аляксандр Лукашэнка – як лідар краіны, тэрыторыя якой з 1915 года апынулася ў эпіцэнтры супрацьстаяння Германскай і Расійскай імперый. Гэта на сустрэчы з журналістамі тэлеканала «Белсат» пацвердзіў дэпутат Нацыянальнай асамблеі Францыі, прэзідэнт групы французска-беларускай дружбы Крыстоф Лежэн.

Ці збіраецца Лукашэнка ў Парыж, ягоная прэс-служба пакуль не ўдакладняе.

«Перад пагрозай узмацнення нацыянальнага эгаізму, разрастаннем ачагоў крызісу і напружанасці нам здаецца важным успомніць абяцанне, дадзенае народам пасля заканчэння Першай сусветнай вайны: больш ніколі!» – так тлумачаць галоўны сэнс імпрэзы арганізатары Форуму міру.

ЧУЛІ?

## Неабходна ўскалыхнуць спажывецкую кааперацыю

Аб такім намеры Аляксандр Лукашэнка выказаўся ўчора падчас рабочай сустрэчы са старшынёй праўлення Белкаапсаюза **Валерыем Івановым.**

“Мною прынята рашэнне падрыхтавацца па выніках гэтага года і ў лютым правесці сур’ёзную нараду на самым высокім узроўні, – сказаў А.Лукашэнка. І дадаў: – Па-першае, трэба ўскалыхнуць усю сістэму. Я не настолькі пагружаны ў вашу працу, каб даваць ацэнкі. Але Камітэт дзяржкантролю, іншыя паглядзелі, што робіцца ў нас у спажывецкай кааперацыі. Інфармацыя больш негатыўнага плана, чым станоўчага”.

ВЕРСІЯ

## Уладзіміра Сямашку, мабыць, чакае новая пасада

Мінула нейкіх пару тыдняў, як Уладзімір Сямашка зляцеў з пасады віцэ-прэм’ера. Але ўжо сёння папаўзлі чуткі, што ён ізноў можа апынуцца ў верхніх эшалонах улады. Хто глядзеў відэакадры з нарады А.Лукашэнкі па выніках перамоў у Сочы з Пуціным, заўважыў: У.Сямашка сядзіць за адным сталом з дзейнымі высокапастаўленымі асобамі.

ПАД ГРАДУСАМ

## Магчымы замаразкі!

*На гэтым тыдні апранацца прыйдзецца цяплей – сіноптыкі абяцаюць дажджлівае і ветранае надвор’е.*

***У сераду 26 верасня*** ноччу будзе без ападкаў, але холадна: тэмпература паветра панізіцца да +1…+6°С, месцамі магчымы замаразкі да 0…-3°С.

Днём на паўночна-заходнюю частку краіны будуць аказваць уплыў атмасферныя франты чарговага паўночнаатлантычнага цыклону, чакаюцца дажджы і моцны парывісты вецер. Тэмпература паветра днём +8…+15°С.

***У чацвер 27 верасня*** чакаецца ветранае і дажджлівае надвор’е. Тэмпература паветра ўначы +4…+10°С. Днём будзе +10…+16°С, па паўднёвым захадзе да +18°С.

АНОНС



*О том, что довелось пережить после того, как началась Великая Отечественная война, ей, Любови Хотылёвой, тогдашней девочке-подростку, ныне знаменитому ученому, – читайте на 6-й и 7-й страницах.*

ПАЛІТКУХНЯ

# Чаму Васіль Палякоў пакінуў Аб’яднаную грамадзянскую партыю?

*На гэтай пасадзе ён адпрацаваў усяго два з паловай месяцы.*



Нагадаем, што **Васіль Палякоў** быў абраны кіраўніком АГП 8 ліпеня, змяніўшы ў гэтым крэсле **Анатоля Лябедзьку**.

*“Галоўнае зараз для партыі і для мяне як для кіраўніка – гэта зрабіць больш адкрытай пляцоўку для прыняцця рашэнняў у арганізацыі*, – заявіў тады новаабраны старшыня. – *Таксама прыярытэтам з’яўляецца тое, каб мы не вырашалі адносіны з іншымі партыйнымі структурамі, з іншымі арганізацыямі, а каб пад бліжэйшую прэзідэнцкую кампанію дамовіліся і правялі адкрыты праймерыз і выйшлі на адзінага кандыдата ад апазіцыі”*.

Амбіцыёзныя планы Палякова, як аказалася, так і засталіся планамі. У мінулую нядзелю ён звярнуўся да Палітсавета партыі з заявай аб складанні паўнамоцтваў кіраўніка арганізацыі. Адстаўка была прынята.

Выканаўцам абавязкаў старшыні партыі стаў **Мікалай Казлоў**.

Дарэчы, датэлефанавацца ўчора да самога Васіля Палякова не прадстаўлялася магымым – адстаўны кіраўнік АГП не здымаў трубку.

*“Відаць, перажывае, што давялося пайсці ў адстаўку, яму не да журналістаў”*, – патлумачылі ў прэс-службе партыі.

– Васіль зараз заявіў, што не ўяўляў аб’ём праблем, якія стаяць перад партыяй, – паведаміў “Народнай Волі” сябра палітсавета АГП **Леў МАРГОЛІН**. – Па-другое, у яго быў намер пераехаць жыць з Гомеля ў Мінск, але некаторыя абставіны не дазваляюць яму гэта зрабіць. Таму і палічыў, што не зможа быць паўнавартасным старшынёй. Некаторыя сябры партыі намагаліся Палякова пераканаць, каб ён застаўся, але той быў непахісны.

**– Асабіста для вас такі паварот падзей стаў нечаканым?**

– Ён для ўсіх стаў нечаканым. І больш за ўсё, напэўна, здзівіўся Мікола Казлоў, які зараз выконвае абавязкі старшыні партыі. Але, скажу шчыра, мы ўдзячны Васілю за тое, што ён усё ж такі вылучыў сваю кандыдатуру і адпрацаваў некалькі месяцаў. Хаця вырашаць праблемы ўсё роўна трэба – ці з Паляковым, ці без яго. І галоўная праблема зараз – фінансавая. Таму што старыя крыніцы фінансавання сышлі, і партыя вымушана заняцца зборам ахвяраванняў як ад партыйцаў, так і ад прыхільнікаў. Гэта няпростая справа, не аднаго месяца.

**– На ваш погляд, Васіль Палякоў пераацаніў свае сілы?**

– Напэўна, так. Мы, дарэчы, прасілі яго зусім не кідаць партыйную работу, бо Васіль – добры арганізатар і нядрэнна праявіў сябе падчас выбарчых кампаній. Той адказаў, што на месяц-два бярэ паўзу, а пасля і дасць адказ.

**– Можа быць, Анатоль Лябедзька вернецца на пасаду кіраўніка партыі?**

– Думаю, не вернецца. Ён ужо заявіў, што ў бліжэйшыя два гады ў яго абсалютна іншыя планы.

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Мікалай КАЗЛОЎ: «Я не палічыў магчымым адмовіцца…»

Выконваючы абавязкі старшыні АГП **Мікалай Казлоў** шчыра прызнаецца, што пра рашэнне Васіля Палякова даведаўся значна раней за 23 верасня, калі Палітсавет партыі прыняў адстаўку Палякова і большасцю галасоў прызначыў яго часова кіраваць партыяй.

– Віншаваць мяне, вядома, няма з чым, – заявіў у каментарыі «Народнай Волі» Мікалай Казлоў. – Я заўсёды ўяўляў маштабы працы старшыні АГП, таму ніколі не імкнуўся заняць гэтую пасаду і на нядаўніх выбарах да апошняга моманту ўзважваў ўсе «за» і «супраць» – балатавацца на гэтую пасаду ці не.

Васіль Палякоў, на мой погляд, быў годнай кандыдатурай, гэтая пасада адпавядала яго дзелавым якасцям, але ў Васіля не атрымалася пераехаць з Гомеля ў Мінск, а кіраваць з рэгіёна такой сур’ёзнай і вялікай структурай, як АГП, вельмі складана. Гэта і стала асноўнай прычынай яго рашэння сысці ў адстаўку. Васіль сумленна ў гэтым прызнаўся, ён не захацеў нікога падманваць, заводзіць сітуацыю ў тупік і прыняў такое рашэнне.

**– Чаму вырашылі менавіта вас прызначыць выконваючым абавязкі старшыні?**

– У адпаведнасці са статутам партыі часова выконваць абавязкі старшыні можа намеснік. Я – адзін з трох намеснікаў, і Палітсавет прыняў такое рашэнне.

**– Нагадайце чытачам, хто яшчэ з’яўляецца намеснікам?**

– Ніна Даўгучыц і Аляксей Кірыенка, ён яшчэ ўзначальвае маладзёжнае крыло АГП.

**– Але вы маглі адмовіцца?**

– Я не палічыў гэта магчымым. Партыя стала часткай майго жыцця, і, улічваючы ўсе абставіны, напрыклад, тое, што праводзіць зараз пазачарговы з’езд несвоечасова, што існуе шмат перашкод для яго правядзення, у тым ліку і фінансавых, я ўзваліў на сябе гэтыя абавязацельствы на перыяд да правядзення новага з’езда.

**– Значыць, на 2 гады?**

– Усё будзе залежаць ад таго, калі ў краіне пройдуць парламенцкія выбары. Аб’яднаная грамадзянская



партыя будзе ў іх удзельнічаць, а кандыдатаў ад партыі на перадвыбарную кампанію мы зацвярджаем на з’ездзе, і цалкам магчыма, што прыйдзецца ўжо ў наступным годзе склікаць пазачарговы з’езд.

**– Мікалай Георгіевіч, а што вы адкажаце на заявы, якія, напэўна, загучаць, што, маўляў, перадача ўлады ад Палякова Казлову – гэта загадзя спланаваная акцыя?**

– Упэўнены, што ў шэрагах АГП заўсёды былі і ёсць людзі, якія пад любое рашэнне падвядуць такія схемы і выбудуюць такі лагічны ланцужок, што… Асабіста я на ліпеньскім з’ездзе галасаваў за Васіля Палякова. Я быў прыхільнікам таго, каб ён не здымаў сваю кандыдатуру зараз. Паверце, я засмуціўся, мабыць, больш за ўсіх. Але гэта яго рашэнне. І я яго прымаю.

**– Які ў вас настрой на працу?**

– Аптымістычны! Думаю, што каманда АГП, мае аднадумцы будуць мне дапамагаць. Спадзяюся, што калектыўна мы справімся з усімі партыйнымі праблемамі, новымі выклікамі, дажывём да з’езда і абяром новага старшыню.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

### З асабістай справы

Мікалай Казлоў – падпалкоўнік міліцыі ў запасе. Шырокай грамадскасці стаў вядомы ў 2010 годзе, калі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў са старонак “Народнай Волі” расказаў пра скандальны факт фальсіфікацыі вынікаў датэрміновага галасавання ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў верасні 2008 года, сведкам якога быў яшчэ ў якасці супрацоўніка міліцыі.

Казлоў неаднаразова прад’яўляў факты фальсіфікацый падчас іншых выбарчых кампаній у Беларусі, ён актыўны ўдзельнік амаль усіх акцый, якія ладзяць у Беларусі прадстаўнікі апазіцыі.

У АГП з 2011 года, доўгі час узначальваў Мінскую гарадскую арганізацыю партыі, у 2016–2018 гадах быў намеснікам старшыні АГП.

ЗАКУЛІССЕ

# Павел Латушка вяртаецца з Парыжа?

*У Мінску ходзяць чуткі пра тое, што Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі **Павел Латушка** ў бліжэйшы час можа змяніць працу. І памяняць дыпламатычную кар’еру на адміністрацыйную – яго сватаюць на месца генеральнага дырэктара Купалаўскага тэатра. Тым больш што крэсла вакантнае – **Павел Палякоў** не так даўно напісаў заяву аб сыходзе па ўласным жаданні.*

*Павел Палякоў працаваў генеральным дырэктарам Купалаўскага амаль 10 гадоў – з 2009-га. Да гэтага быў дырэктарам Тэатра юнага гледача. Некаторыя культурныя дзеячы называлі яго «лепшым тэатральным дырэктарам у Беларусі». Чаму ён сышоў – дагэтуль дакладна не вядома.*

*Ці сапраўды Латушка сыходзіць з Міністэрства замежных спраў?*

*“Народная Воля” вырашыла праверыць гэтую інфармацыю і зрабіла званок мастацкаму кіраўніку тэатра імя Янкі Купалы **Мікалаю Пінігіну**.*

– У мяне няма дакладнай інфармацыі, што ўсё будзе менавіта так, – *адказаў Мікалай Мікалаевіч Пінігін*. – Чуткі чуткамі, але... Калі прыйдзе, значыць, прыйдзе. Многа што кажуць... Але пацвердзіць гэта можна будзе толькі пасля таго, як прызначэнне адбудзецца.

**– А вы з Паўлам Латушкам не абмяркоўвалі гэтую тэму?**

– Я ж не прызначаю дырэктара – гэтым міністр займаецца ...

**– Да вашых пажаданняў міністр прыслухоўваецца?**

– Так, мы дамовіліся, што перад тым, як прызначыць дырэктара, яго кандыдатуру ўзгодняць са мной. Міністр пагадзіўся…

**– Але пакуль на ваш разгляд прэтэндэнтаў на пасаду дырэктара не прадставілі?**



– Не.

**– А раскажыце, чаму Павел Палякоў сышоў? Нешта крымінальнае? Стаміўся? Прыбралі?**

– Яго ніхто не прыбіраў, ён сышоў па ўласным жаданні. Ну, захацеў чалавек памяняць сваё жыццё нейкім чынам...

**– А ў вас з Паляковым былі добрыя адносіны ці нацягнутыя?**

– Адносіны добрыя былі! Я лічу, што гэта лепшы дырэктар! Але ў яго ёсць нейкія свае планы на жыццё...

**– Вы яго з лёгкай душой адпусцілі?**

– Для мяне гэта было даволі нечакана, усё ў час майго адпачынку здарылася, мяне нават у Мінску не было. Ну, калі чалавек па ўласным жаданні сыходзіць, як яго не адпусціш? Хоць мне вельмі шкада, што ён пайшоў...

**– Калі чуткі аб звальненні Паўла Латушкі з МЗС маюць пад сабой рэальную аснову, то, з аднаго боку, для яго праца дырэктарам тэатра – паніжэнне. А Латушка – чалавек вельмі амбіцыйны... З другога боку, працаваць з Пінігіным – гэта, можа, нават больш крута, чым быць міністрам...**

– Не ведаю, што сказаць... Мне цяжка гэта абмяркоўваць...

**– Але, калі б вам кандыдатуру цяперашняга амбасадара Беларусі ў Францыі прадставілі на ўзгадненне, вы зацвердзілі б яго прызначэнне на пасаду гендырэктара тэатра?**

– Напэўна, так. Але я думаю, што, як заўсёды ў падобных выпадках бывае, разглядаецца не адна кандыдатура. І выбар будзе.

**– Якімі якасцямі, на ваш погляд, павінен валодаць чалавек, які прэтэндуе на крэсла гендырэктара Купалаўскага тэатра?**

– Гэта павінен быць чалавек, які разбіраецца ў фінансах, якому падабалася б працаваць у тэатры – ён павінен яго любіць. Пры гэтым ён павінен быць добрым менеджарам, таму што ў нашай сітуацыі трэба ўмець знаходзіць грошы не толькі ў дзяржбюджэце – гэта вельмі важна, таму што сродкаў ўвесь час не хапае... Адным словам, гэта павінен быць проста ідэальны чалавек!

**Марына КОКТЫШ.**

**На фота: Павел Латушка: сысці да Мікалая Пінігіна або застацца з Уладзімірам Макеем?**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Шашаль мовы – трасянка

На дзень нараджэння сын – вучань сталічнай беларускамоўнай гімназіі №23 – папрасіў падараваць яму вандроўку па цікавых мясцінах Беларусі. Селі мы над картай, выпрацавалі маршрут, прыхапілі з сабой маму і – паехалі. Нясвіж, Ружаны, Пружаны, Брэст, Высокае, Камянюкі, Камянец, Падароск, Ваўкавыск, Зэльва, Слонім… За тры дні праехалі больш за 1000 кіламетраў, паглядзелі пяць музеяў, чатыры палацы, пабачылі зуброў на волі і самае вялікае ў свеце беларускае слова – *Дажынкі* (50 метраў у даўжыню, з саламяных качалак, каля вёскі Расна пад Брэстам). Сын застаўся задаволены, я – не зусім. Не, мне таксама спадабаліся адноўленыя Радзівілаўскі палац у Нясвіжы і Камянецкая вежа, з якой агляд не горшы, чым з самалёта. Лыжкай дзёгцю ў бочцы з мёдам стала… моўная трасянка з вуснаў музейных работнікаў.

Сімпатычная экскурсаводка ў Камянцы адразу нас папярэдзіла, што па-беларуску яна гаворыць значна марудней, чым па-руску, таму экскурсія зацягнецца. Мы пагадзіліся, хоць спяшаліся. І – пачулі руска-беларускую трасянку, ад якой вялі вушы.

На трасянцы нам адказвалі і супрацоўніцы мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць", і Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея.

Я куплялю квіткі, плачу за паслугі, а нам пра нашу гісторыю расказваюць непісьменнай мовай. Альбо – настойліва прапануюць мову рускую. Маўляў, "вы же её понимаете"...

На вяршыні трыццаціметровай Камянецкай *башні* (*вежа* экскурсаводцы чамусьці так і не далася) я расказаў, як алімпійская чэмпіёнка Надзея Астапчук (штурхальніца ядра) аднойчы прызналася ў выкарыстанні незвычайнага "допінгу". Аказваецца, мае яна такую завядзёнку – перад самым выхадам у сектар для штурхання ў вузкім коле паразмаўляць па-беларуску. І – адразу адчувае прыліў энергіі. Вынік – залатыя і срэбныя медалі на алімпіядах.

З высновай, што мова – сіла, экскурсаводка пагадзілася. І для адной спартсменкі, і для шматмільённага народа. А як адолець сілу? Трэба яе аслабіць знутры. Так у стан непрыяцеля засылаецца спрактыкаваны лазутчык, які ўмее дэмаралізаваць варожае войска. Так пад кару здаровага дрэва запаўзае шашаль і пачынае яго тачыць – ад абалоні да сарцавіны.

Шашаль беларускай мовы – трасянка. Здаўна яна існавала на ўзбочыне грамадскага жыцця, ніхто яе не прымаў усур'ёз. Але апошнім часам статус трасянкі пачаў раптам падвышацца. З'явіліся высакалобыя разумнікі, якія абвясцілі трасянку самабытнай і цікавай моўнай з'явай, якая мае права на жыццё. На трасянцы пачалі пісаць некаторыя маладыя паэты, нават выйшла ў свет першая трасяначная кніжка з пазнавальнай назвай "Пішчавыя лішкі".

Як ні дзіўна, у падтрымку трасянкі неаднойчы выступаў былы старшыня Таварыства беларускай мовы і цяперашні арганізатар Нацыянальнага ўніверсітэта Алег Трусаў ("Лупіце на трасянцы!", "Нас спасает трасянка" – гэта загалоўкі яго інтэрв'ю). Хай выбачае мне шаноўны Алег Анатольевіч, але ў дадзеным выпадку ён нагадвае садоўніка, які ў давераны яму сад кашамі носіць жукоў-караедаў. Неяк я публічна, у прысутнасці спадара Трусава, прапанаваў пераназваць *трасянку* ў *трусянку* – у яго гонар. Ну, раз ён яе прапагандуе. І – не пачуў пярэчанняў. Відаць, мая прапанова спадабалася...

Высакалобыя разумнікі тлумачаць, што трасянкі розных гатункаў распаўсюджаны ва ўсім свеце, параўноўваюць беларускі варыянт з піджынам і суржыкам. Але піджын – з'ява зусім іншага парадку, ён узнікае ў экстрэмальнай сітуацыі, пры міжэтнічных кантактах (часам – канфліктах), калі з'яўляецца вострая неабходнасць паразумецца, каб не нарабіць яшчэ большай бяды. А суржык – гэта той самы шашаль, толькі точыць ён мову ўкраінскую. З трасянкай яны сапраўды – як блізняты, і паходжанне ў іх аднолькавае, і спосабы пранікнення.

Маладым паэтам хочацца вылучыцца, хочацца пазбегнуць падабенства з астатнімі. Усе пішуць па-беларуску? А я буду на трасянцы! І вось ужо фэйсбукі і твітары разносяць па свеце рыфмаванкі накшталт: "*Жэншчына з вядром на галаве, / вы каво удумалі пугаць ім? / Мы ведзь вам за эпатаж не плацім, / жэншчына з вядром на галаве*". Смешна? Яшчэ як. Моладзь пасцябацца любіць. Але сцёб гэткі прыядаецца пасля першай жа порцыі. Што добра разумелі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у "Пінскай шляхце", Янка Купала ў "Тутэйшых", Ніл Гілевіч у "Родных дзецях", уводзячы трасянку ў тэкст невялікімі дозамі, і то дзеля таго, каб паказаць у камічным святле сваіх герояў-прыстасаванцаў.

Трасянка – рэч далёка не бяскрыўдная, як некаму здаецца. Гэта з'ява пачварная, антыкультурная. Яна далася беларусам у знакі яшчэ на самым пачатку сталінскага тэрору. Не, на ёй "тройкі" не пісалі свае прысуды. Проста тагачасны сакратар моўнай камісіі Інбелкульта Язэп Воўк-Левановіч у 1929 годзе выступіў на моўнай канферэнцыі ў Акадэміі навук з яўна правакацыйнай прапановай – увесці ва ўжытак наступныя словаформы: *інцярэсы, ліцература, шчот, случай, фяўраль* ды іншыя. Пісьменнікі і мовазнаўцы пачалі пратэставаць супраць відавочнай бязглуздзіцы. Іх пратэсты адсочваліся ГПУ, і ў 1930-м усе нязгодныя з засмечваннем беларускай мовы апынуліся ў ГУЛАГу. Следам за імі саслалі да белых мядзведзяў і Ваўка-Левановіча, адкуль ён, як і большасць яго ных калег, ужо не вярнуўся.

На жаль, нявартая і гарэлага шэлега трасянка пачуваецца ў Беларусі ўсё больш упэўнена. Куды ні паедзеш – на прыдарожных шыльдах розныя "*Акцябры*" з "*Пабедамі*". Куды ні зірнеш у сецівe – "*Сашы і Сірожы*" са сваім нізкапробным трасяначным гумарам (сотні тысяч праглядаў!). Як ні паслухаеш гамонку на вуліцы – пераважна трасянка. І пазбавіцца ад яе будзе вельмі складана. Шашаль – ён жывучы…



СМУТАК

# «Я заўсёды быў самім сабой…»

*Памёр старшыня праўлення барысаўскага футбольнага клуба БАТЭ Анатоль Капскі. Яму было ўсяго 52 гады…*

Вось толькі некалькі фактаў з жыцця аднаго з самых паспяховых футбольных менеджараў Беларусі.







## Загартоўка характару

Яшчэ малым Анатоль Капскі перанёс запаленне лёгкіх, хлопчык балансаваў на мяжы жыцця і смерці. Пазней чорная паласа працягнулася. У 5-гадовым узросце ён зваліўся з прычэпа і раздрабіў тазабедраную костку, пасля чаго давялося вучыцца хадзіць нанова.

*"Маё жыццё, калі равеснікі пачыналі ўжо займацца ў секцыях і гуляць у футбол у двары, пачыналася з выцяжкі,* – успамінаў затым кіраўнік БАТЭ. – *Я зваліўся з прычэпа, амаль два гады правёў у бальнічнай палаце. Так што першая мэта ў жыцці была абсалютна канкрэтная: навучыцца самастойна рухацца. Калі ў першым класе ў школу я яшчэ мог дайсці самастойна, то назад мяне забірала маці і цягнула дадому на плячах, бо да канца дня нага ўжо практычна не рухалася. Па сутнасці, я даганяў аднакласнікаў увесь школьны перыяд. І, можа быць, гэтая сітуацыя і прывучыла мяне жыць у цэйтноце, калі ўсё трэба рабіць хутчэй астатніх, шукаць у сабе нейкія ўнутраныя інструменты для падаўлення апатыі і ляноты, што бывае, чаго хаваць, у людзей у любым узросце..."*

## Не любіў здраду

Многія называлі БАТЭ сямейнай камандай, бо там і насамрэч пануе такая атмасфера. Анатоль Капскі ніколі не пакідаў сваіх "дзяцей" сам-насам з праблемамі, дапамагаў чым мог футбалістам і трэнерам, але і перажываў, калі тыя не адказвалі ўзаемнасцю.

Восенню 2007 года галоўны трэнер БАТЭ Ігар Крывушэнка са скандалам пакінуў барысаўскую каманду і перайшоў на такую ж пасаду ў мінскае "Дынама". Многія назвалі гэта здрадай, у Анатоля Капскага тады эмоцыі білі праз край…

*"Я пайшоў у "Дынама", таму што гэта быў новы выклік у кар'еры,* – распавядаў праз гады Ігар Крывушэнка. – *На рашэнне паўплываў не толькі фінансавы фактар, але і жаданне стварыць на новым месцы моцную каманду. А Анатоль Анатольевіч – дарослы, адэкватны чалавек. Ён усё цудоўна разумее. Адразу, натуральна, былі эмоцыі, але ж я ніякай подласці не зрабіў. Подласць была б, калі б пакінуў клуб і нікому не сказаў ні слова. Тым не менш два гады з Анатолем Капскім мы не віталіся. Да таго моманту, калі я паляцеў з БАТЭ на матч з "Эвертонам". Пагутарылі з Анатольевічам у самалёце ды зрабілі ў знак прымірэння па 50 грамаў"*.

## Заўсёды прызнаваў свае памылкі

Футбольны агент Валерый Ісаеў кажа, што Анатоль Капскі мог вельмі сур'ёзна пакрыўдзіць, але рэагаваць на гэта было не варта.

*"Я ведаў, што ён патэлефануе праз гадзіну, праз дзень ці тыдзень і папросіць прабачэння,* – адзначае Ісаеў. – *У наступны раз яго можна было слухаць і не пярэчыць. Гэтая яго якасць – прызнаваць памылкі – дарагога каштуе"*.

А вось якую гісторыю сваіх стасункаў з Анатолем Капскім успомніў на інтэрнэт-форуме чалавек, які працуе страхавым агентам:

*"Памятаю, неяк Капскі ці то ў 2002-м, ці то ў 2003 годзе застрахаваў па "Каска" машыну сваёй жонкі на астатак крэдыту, на 60 працэнтаў. І калі я сказаў яму пра тое, што мы заплацім яму толькі 60 працэнтаў ад кошту замены шкла, ён быў раз'юшаны. Ён крычаў, што мы махляры і казлы. І ведаеце, што самае цікавае? Праз два дні, калі супакоіўся, Анатоль Капскі патэлефанаваў і сказаў: "Прабачце, я не правы". За 15 гадоў маёй працы ў страхаванні Анатоль Капскі – адзіны злы, незадаволены чалавек, які патэлефанаваў і выбачыўся. Я буду памятаць гэта да канца свайго жыцця"*.

ДАРЭЧЫ

*Грамадзянская цырымонія развітання з Анатолем Капскім прайшла ўчора на "Барысаў-Арэне". Развітацца прыйшлі футбалісты і трэнеры, простыя балельшчыкі. Прыехалі і некаторыя чыноўнікі: міністр спорту і турызму Сяргей Кавальчук, прэм'ер-міністр Беларусі і старшыня Федэрацыі футбола Сяргей Румас, экс-старшыні Мінскага аблвыканкама Барыс Батура, Сямён Шапіра...*

*У апошні шлях Анатоля Капскага праводзілі на стадыёне пад апладысменты.*

## Давераная асоба Лукашэнкі

Падчас перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі 2010 года Анатоль Капскі адкрыта падтрымліваў дзеючага беларускага кіраўніка, быў яго даверанай асобай. Пры гэтым казаў: маўляў, для мяне *"прэзідэнт – гарант той праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця, якую павінны рэалізаваць"*.

Анатоль Анатольевіч дадаваў, што не атрымаў ад перадвыбарнай гонкі *"ніякіх дывідэндаў"*, а на бок беларускага кіраўніка стаў таму, што *"так падказвала сумленне"*.

*"Людзі, які ненавідзяць сваіх апанентаў і гатовы кожную хвіліну абражаць, не маюць права называцца апазіцыяй"*, – адзначаў ён, успамінаючы пра крытыку ў свой адрас за ўдзел у палітычнай кампаніі. І падкрэсліваў: *"Я заўжды быў самім сабой..."*

## Шлях да Бога

*"Я веру ў Бога і наведваю царкву не толькі па святах,* – распавядаў Анатоль Анатольевіч. – *На жаль, не так часта, як хацелася б. Лічу, грошы ад бізнесу, у тым ліку і ад футбольнага клуба, павінны ісці на падтрымку храмаў"*.

У 1990-я гады, калі Анатоль Капскі займаўся ўласным бізнесам, ён атрымаў царкоўны ордэн "Святога благавернага князя маскоўскага Даніїла" ад імя патрыярха Алексія II за дапамогу ў будаўніцтве царквы ў Барысаве.

Таксама футбольны клуб браў удзел у аднаўленні праваслаўнага храма ў вёсцы Зембін, які быў разбураны ў савецкія часы. Дарэчы, у гэтым жа храме ўчора і прайшлі памінальная літургія і адпяванне.

## Барацьба за жыццё

У 20 гадоў Анатоль Капскі даведаўся, што хворы на рак, але ўрачы рабілі ўсё магчымае, і хвароба адступіла. Нагадала яна пра сябе толькі праз 12 гадоў, калі рэцыдыў захворвання справакавала запаленне лёгкіх. Далей ізноў была хіміятэрапія, у 2013 годзе кіраўніку БАТЭ зрабілі аперацыю ў адной з клінік Вільнюса.

У мінулым годзе ў Анатоля Капскага зноў пачаліся праблемы са здароўем. Ён пакінуў пасаду генеральнага дырэктара ААТ "Барысаўскі завод аўтатрактарнага абсталявання". Але з футболам і любімым клубам заставаўся да канца...

Падрыхтаваў
**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ




# «Мы павінны закрыць мяжу з Украінай. Але не для прыстойных людзей, а для тых, хто вязе зброю…»

**Аляксандр Лукашэнка** ўчора на сустрэчы з дзяржаўным сакратаром Рады бяспекі **Станіславам Засем** і старшынёй Дзяржпагранкамітэта **Анатолем Лапо** агучыў інфармацыю пра затрыманне буйнога нелегальнага арсенала, паведамляе БЕЛТА.

На сустрэчы, у прыватнасці, гаворка ішла аб магчымым павелічэнні колькасці памежнікаў і ўзмацненні працы па асобных кірунках. «*Там, дзе трэба, мы гэта зробім. Мы прынялі рашэнне аб умацаванні мяжы з Украінай. Мы бачым, колькі адтуль ідзе сёння бяды для Беларусі, і ў тым ліку зброі перапраўляецца.*

*Мы павінны закрыць мяжу. Але не для прыстойных людзей, а для бандытаў, для тых, хто вязе зброю*», – заявіў Аляксандр Рыгоравіч.

Ён паведаміў інфармацыю, агучаную раней пры дакладзе міністра ўнутраных спраў **Ігара Шуневіча**. «*Вось цяпер міністр дакладваў мне. Яны затрымалі чалавека, у якога арсенал: кулямёты, дзясяткі аўтаматаў, два дзясяткі вінтовак, дзесяць тысяч патронаў і гэтак далей, і гэтак далей*», – прывёў падрабязнасці Аляксандр Лукашэнка.

«*Калекцыянуюць? Дык баявая ж уся зброя. Вось калекцыянеры… Адкуль усё гэта? Паглядзелі – у войску нашым усё на месцы. Завезлі. Таму прынята рашэнне ўстанавіць мяжу з Украінай. Патрэбна там колькасць – патрэбна. Давайце паглядзім. Але не кагалам – туды сотню, туды тысячу, а па адным чалавеку, куды трэба. Без усялякіх начальнікаў. Начальнікаў павінна быць па мінімуме*», – дадаў Лукашэнка.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Гродзенец нагадаў жыхарам горада аб зніклых палітыках

*У ягонай кватэры правялі ператрус*

Кіраўнік грамадскай ініцыятывы "Гароднія" **Анатоль Мышкевіч** (*на фота*) 16 верасня прымацаваў на сцяне дома ў цэнтры Гродна плакат са здымкамі зніклых палітыкаў – **Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара**, прадпрымальніка **Уладзіміра Красоўскага** і відэааператара **Дзмітрыя Завадскага.** На плакаце быў надпіс: «Мы памятаем! Не дазволім паўтарыць!». Акрамя гэтага, ён раздаваў мінакам такія ж улёткі, толькі значна меншага памеру. Праз некалькі дзён у кватэры Мышкевіча адбыўся ператрус.



Анатоль расказаў «Народнай Волі», што міліцыянты прыйшлі дадому, калі яго не было, а калі ён вярнуўся, то ператрус быў ужо амаль скончаны.

«*Нічога асаблівага ў кватэры не знайшлі, канфіскавалі толькі планшэт,* – кажа Мышкевіч. – *Яны адразу сказалі, што іх цікавіць камп'ютарная тэхніка, з якой маглі б раздрукаваць улёткі. Але нічога падобнага ў мяне не было ў хаце*».

Паводле слоў Мышкевіча, ён азнаёміўся з пастановай на вобшук, і там было запісана, што дадзенае мерапрыемства праводзіцца ў сувязі з тым, што 16 верасня ён павесіў на вуліцы плакат з выявамі зніклых людзей і раздаваў улёткі. Даваць тлумачэнні міліцыі і падпісваць пад пратаколам апытання Мышкевіч адмовіўся.

«*Я, калі развесіў плакат і раздаваў улёткі, ні ад кога не хаваўся,* – кажа Мышкевіч. – *16 верасня споўнілася 19 год з таго часу, як зніклі Ганчар і Красоўскі, і іх ніхто не знайшоў. Я вырашыў нагадаць аб гэтым гродзенцам. Дарэчы, шмат хто ўжо аб гэтым не памятае*».

Зараз Мышкевіч мяркуе, што складзены на яго пратакол перададуць у суд.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

